Выдавец:
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс»,
пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by

Выдаецца са снежня 1994 года

47 (555) 25 лістапада 2010 года.

Кошт свабодны.







На хутары Скрабатуны.
Матэрыял на стар. 4-5

Фота Ул. Скрабатуна





























**МНС ІНФАРМУЕ** (на 23.11.2010):

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 1300;
Гібель людзей –192, з іх дзяцей няма;
Урон – 2 716 100 000 руб.,

**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 58;
Гібель людзей – 6, з іх дзяцей няма;
Урон – 101 300 000 руб.

# ²õ óñÿãî äçåñÿöü. Âûá³ðàåì!


Äçì³òðûé Âóñ, óçíà÷àëüâàå âûäàâåöòâà “Òðûâ³þì”, áåñïàðòûéíû


Ðûãîð Êàñòóñ¸¢, íàìåñí³ê ñòàðøûí³ ïàðòû³ ÁÍÔ


Àëÿêñàíäð Ëóêàøýíêà, äçåþ÷û Ïðýç³äýíò


Àëåñü Ì³õàëåâ³÷, ñòàðøûíÿ àðãêàì³òýòà ïà ñòâàðýíí³ ñàþçà “Çà ìàäýðí³çàöûþ”


Óëàäç³ì³ð Íÿêëÿå¢, ë³äàð ãðàìàäçÿíñêàé êàìïàí³³ “Êàæû ïðà¢äó”


Â³òàëü Ðûìàøý¢ñê³, ñóñòàðøûíÿ àðãêàì³òýòà ïà ñòâàðýíí³ ïàðòû³ “Áåëàðóñêàÿ õðûñö³ÿíñêàÿ äýìàêðàòûÿ”


ßðàñëà¢ Ðàìàí÷óê, íàìåñí³ê ñòàðøûí³ Àá’ÿäíàíàé ãðàìàäçÿíñêàé ïàðòû³


Àíäðýé Ñàíí³êà¢, ë³äàð êàìïàí³³ “Å¢ðàïåéñêàÿ Áåëàðóñü”


Ì³êàëàé Ñòàòêåâ³÷, ë³äàð àðãêàì³òýòà ïà ñòâàðýíí³ “Áåëàðóñêàé ñàöûÿë-äýìàêðàòû÷íàé ïàðòû³ (Íàðîäíàÿ ãðàìàäà)


Â³êòàð Öÿðýø÷àíêà, áûëû ñòàðøûíÿ Áåëàðóñêàé íàðîäíàé ïàðòû³, ñòàðøûíÿ ðàäû “Àñàöûÿöûÿ ìàëîãà ³ ñÿðýäíÿãà ïðàäïðûìàëüí³öòâà”

## Ãðàô³ê âûñòóïëåííÿ êàíäûäàòà¢ ó ïðýç³äýíòû ïà ðàäû¸ ³ ÒÂ

■ **Сяргей Каралевіч,** БелаПАН.

**Цэнтрвыбаркам абнародаваў вынікі вызначэння эфірнага часу для выступлення кандыдатаў у Прэзідэнты РБ на тэлебачанні і радыё. Выступленні будуць праходзіць з 22 лістапада да 3 снежня ў працоўныя дні: па радыё з 6.10 па 7.10, па тэлебачанні з 19.00 па 20.00.**

**Як паведаміў БелаПАН сакратар Цэнтрвыбаркама Мікалай Лазавік, Цэнтральная камісія "пайшла насВустрач пажаданням асобных кандыдатаў, даўшы ім права выступіць як у прамым эфіры, так і ў запісе".**

**22 лістапада выступаюць:** па радыё з 6.10 да 6.40 Віктар Цярэшчанка, з 6.40 да 7.10 Яраслаў Раманчук; па тэлебачанні з 19.00 да 19.30 Віталь Рымашэўскі, з 19.30 да 20.00 Алесь Міхалевіч.

**23 лістапада:** па радыё з 6.10 да 6.40 Уладзімір Някляеў і з 6.40 да 7.10 Аляксандр Лукашэнка; па тэлебачанні з 19.00 да 19.30 Мікалай Статкевіч і з 19.30 да 20.00 Дзмітрый Вус.

**24 лістапада:** па радыё з 6.10 да 6.40 Віталь Рымашэўскі, з 6.40 па 7.10 Алесь Міхалевіч; па тэлебачанні з 19.00 да 19.30 Андрэй Саннікаў, з 19.30 да 20.00 Рыгор Кастусёў.

**25 лістапада:** па радыё з 6.10 да 6.40 Мікалай Статкевіч, з 6.40 па 7.10 Дзмітрый Вус; па тэлебачанні з 19.00 да 19.30 Яраслаў Раманчук, з 19.30 да 20.00 Віктар Цярэшчанка.

**26 лістапада:** па радыё з 6.10 да 6.40 Андрэй Саннікаў, з 6.40 па 7.10 Рыгор Кастусёў; па тэлебачанні з 19.00 да 19.30 Уладзімір Някляеў, з 19.30 да 20.00 Аляксандр Лукашэнка.

**29 лістапада:** па радыё з 6.10 да 6.40 Яраслаў Раманчук і з 6.40 па 7.10 Віктар Цярэшчанка; па тэлебачанні з 19.00 да 19.30 Алесь Міхалевіч і з 19.30 да 20.00 Віталь Рымашэўскі.

**30 лістапада:** па радыё з 6.10 да 6.40 Аляксандр Лукашэнка, з 6.40 па 7.10 Уладзімір Някляеў; па тэлебачанні з 19.00 да 19.30 Дзмітрый Вус, з 19.30 да 20.00 Мікалай Статкевіч.

*(ïðàöÿã íà ñòàð. 15)*

## Íàäâîð’å ¢ Ãëûáîê³ì

www.rp5.ru

| | чацвер 25.11.10 | | | | пятн. 26.11.10 | | | | сб. 27.11.10 | | | | нядз. 28.11.10 | | | | 29.11.10 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 | 02:00 | 08:00 | 14:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература, °С | +2 | +1 | +1 | +1 | 0 | -1 | -1 | -3 | -3 | -2 | -1 | -3 | -4 | -6 | -6 | -7 | -7 | -7 | -6 |
| Ціск, мм | 729 | 731 | 732 | 733 | 735 | 737 | 739 | 740 | 741 | 741 | 741 | 742 | 744 | 746 | 748 | 749 | 750 | 750 | 749 |
| Вільготнасць, % | 92 | 88 | 81 | 90 | 93 | 91 | 83 | 87 | 92 | 90 | 78 | 91 | 92 | 86 | 81 | 75 | 74 | 74 | 72 |
| Вецер м/сек | Ю-З 4 | Ю-З 6 | Ю-З 4 | Ю-З 5 | З 3 | Ю-З 5 | Ю-З 4 | Ю-З 2 | Ю-З 2 | Ю-З 2 | С-З 1 | С 3 | С 5 | С 3 | С 4 | С 3 | С-З 2 | В 2 | В 4 |
| | | 08:01 | 15:52 | | | 08:02 | 15:51 | | | 08:04 | 15:49 | | | 08:06 | 15:48 | | 08:07 | 15:47 | |
| | | 19:24 | 11:22 | | | 20:49 | 11:49 | | | 22:15 | 12:09 | | | 23:41 | 12:26 | | - | 12:40 | |

## Äçåíü çà äí¸ì

**Каля 90 % жыхароў Беларусі, па дадзеных сацапытанняў, збіраецца ўдзельнічаць у прэзідэнцкіх выбарах. У кастрычніку адбыўся абвал валютных рэзерваў краіны на рэкордную велічыню– адразу на 409,1 млн. $, якія актыўна скуплялі насельніцтва і суб'екты гаспадарання. З новага году Беларусбанк на льготных умовах пачне крэдытаваць за кошт сродкаў бюджэту дзяржзаказчыкаў да фарміравання арганізацый забудоўшчыкаў. Напярэдадні выбараў у Беларусі больш як у 1,3 раза павялічылі памеры студэнцкіх стыпендый.**

## Âàæíåéøûÿ íàâ³íû ñâåòó

**ЗША.** Федэральная рэзервовая сістэма краіны вырашыла надрукаваць яшчэ 600 млрд. $, што выклікала незадаволенасць Германіі, Кітая і Бразіліі і рост курса еўра да долара.

**Бельгія.** Еўракамісія выдзеліла Беларусі 10 млн. EUR дапамогі на падтрымку энергазберагаючых тэхналогій і на павышэнне эфектыўнасці беларускай энергетыкі.

**Францыя.** Прэзідэнт М. Сарказі праігнараваў масавыя акцыі пратэсту і падпісаў закон аб пенсійнай рэформе– да 2018 года ўзрост выхаду на пенсію павялічыцца з 60 да 62 гадоў.

**Італія.** З дапамогай робата-хірурга ў клініцы ўніверсітэта Пізано паспяхова правялі першую ў свеце перасадку падстраўнікавай залозы 43-гадовай хворай на дыябет.

**Польшча.** Спрошчаны парадак перасячэння граніц з Беларуссю для жыхароў прыгранічных раёнаў пачне дзейнічаць з красавіка будучага года, па свеце палякі ездзяць свабодна.

**Харватыя.** Сталічны суд прыгавaрыў 6 членаў бандгрупы да 150 (агульная колькасць) гадоў турмы за забойства вядомага журналіста І. Пуканіча, злачынцы не назвалі імя заказчыка расправы.

**Ізраіль.** Прэм'ер-міністр Б. Нетаньяху заклікаў ЗША да больш цвёрдай палітыкі ў адносінах да Ірана.

**Украіна.** Міжведамасная камісія па міжнародным гандлі краіны ўвяла квоты на імпарт 21 тысяч тон запалак да 2012 года ў асноўным толькі з прадпрыемстваў Расіі і Беларусі.

**Малдова.** Прэм'ер-міністр У. Філат заявіў, што ў 2011 годзе краіна падасць заяўку на ўступленне ў ЕС з улікам прагрэсу ва ўкараненні тут еўрапейскіх стандартаў.

**Кітай.** Паміж гарадамі Шанхай і Ханчжоу сталі хадзіць самыя хуткія ў свеце цягнікі з хуткасцю 350 км у гадзіну, кітайцы стварылі і самы хуткі ў свеце суперкамп'ютар.

**Польшча.** Паблізу граніцы з Германіяй у гарадку Свебодзін узвялі самы высокі ў свеце помнік Ісусу Хрысту вышынёй 51 метр, што на 13 м вышэй за манумент ў Рыа-дэ-Жанейра.

**Новая Зеландыя.** Славутай беларускай спартсменцы К. Карстэн не ўдалося тут у сёмы раз стаць чэмпіёнкай свету па акадэмічным веславанні, яна выйграла сярэбраны медаль.

**Расія.** З-за меркаванняў бяспекі былы мэр Масквы Юрый Лужкоў вывез сваіх дочак з расійскай сталіцы ў Англію, яны сталі жыць у Лондане, дзе шмат асела рускіх уцекачоў.

**Украіна.** Напрыканцы восені ў краіну вярнулася анамальна цёплае надвор'е: як летам, стала ў Крыме, дзе паветра прагрэлася да 27 градусаў, чаго не было тут 85 гадоў.

**Італія.** На тэрыторыі старажытнага горада-музея Пампеі з-за дажджоў абваліўся будынак для гладыятараў паблізу амфітэатра. яго гісторыя налічвае 2 тысячы гадоў.

## Ïàäçå³, ïðà ÿê³ÿ ãàâîðûöü Áåëàðóñü

**Мінск.** Сёлета ў Беларусі небывалымі тэмпамі расце адмоўнае сальда знешняга гандлю, за 3 кварталы краіна нагандлявала на мінус 6 млрд. $, амаль на 1 млрд. болей, чым летась.

**Мядзель.** У сталіцы нарачанскага краю адкрыўся абноўлены і самы сучасны на Міншчыне аўтавакзал, да лета 2011 года такі ж аб'ект з'явіцца і ў курортным пасёлку Нарач.

**Астравец.** Расія, хутчэй за ўсё, не стане будаваць тут АЭС, стаў прапрацоўвацца варыянт узвядзення атамнай электрастанцыі японскай кампаніяй "Міцубісі Хэві Індастрыз".

**Мінск.** Толькі за 10 месяцаў года, як паведаміў старшыня КДК Беларусі Зянон Ломаць, па выніках 49 праверак выяўлены выплаты заробкаў у "канвертах" на суму больш за 600 млн.

**Мазыр.** Па кантракту з Украінай на Мазырскі НПЗ па трубаправоднай сістэме Адэса-Броды будзе наладжаны транзіт нафты да 8 млн. т у год ў аверсным рэжыме да 2013 года.

**Мінск.** Глава прэзідэнцкай Адміністрацыі Уладзімір Макей пацвердзіў, што 3 млрд. еўра дапамогі ЕС краіне не патрэбны, калі яны будуць абстаўляцца палітычнымі ўмовамі.

**Бабруйск.** Дырэкцыя ААТ "ФанДОК" паабяцала непрыемнасці работнікам, якія паскардзіліся ў газету "СБ" за затрымкі ім выплат і так малых зарплат (каля 400 тысяч у месяц).

**Баранавічы.** Да канца года да птушкафабрыкі "Дружба" далучаць яшчэ адзін, сёмы па ліку, дабіты калгас "Застарынскі". Цяпер прадпрыемства мае зямлі ўжо 19 тыс. гектараў.

**Гродна.** Кітайская кампанія HEAG пабудавала ў пасёлку Грабнікі самую буйную ў Беларусі ветраэнергетычную ўстаноўку магутнасцю 1,5 МВт, у планах цэлы ветрапарк.

**Магілёў.** Калегія абласнога суда асудзіла на пажыццёвае зняволенне 39-гадовага гараджаніна за наўмыснае забойства і расчляненне ім цел двух жанчын.

**Мінск.** За дзеючага Прэзідэнта ў сталіцы было сабрана найменш па Беларусі подпісаў, нават у 2 разы менш, чым у лідара па гэтым паказчыку – Брэсцкай вобласці.

**Быхаў.** За злоўжыванне ўладай і за спробу скрыць факт гібелі за месяц 106 парсючкоў супраць экс-старшыні і заг. фермы СВК "Валадарскі" распачалі крымінальную справу.

**Баранавічы.** 22-гадовы хлопец на падпітку ўстроіў самасуд і з паляўнічага ружжа застрэліў двух і раніў аднаго жыхара вёскі Дамашэвічы, якія быццам бы абкрадалі дом бабкі.

**Лагойск.** На фоне сямейных разборак п'яныя сыны сужыцелькі вяскоўца ледзь яго не забілі да смерці. Калі прыехала міліцыя, мужык быў жывы, але без свайго палавога органа.

**Мінск.** Перад фасадам абноўленага дзяржцырка ўстанавілі прыгожую бронзавую скульптуру каня з вершніцай- цыркавой акрабаткай, гэты конь стаў трэцім у сталіцы.

## Ïàíàðàìà ¢íóòðûàáëàñíûõ ïàäçåé

**Віцебск.** Вобласць выйшла на сумнае 1-е месца ў Беларусі па колькасці забойстваў людзей. Па самазабойствах паказчыкі яшчэ больш страшныя, найбольш іх - у глыбінцы.

**Наваполацк.** У планах урада, як пацвердзіў віцэ-прэм'ер Уладзімір Сямашка, прадаць кантрольны пакет дзяржакцый ААТ "Нафтан" Венесуэле, якая ім цікавіцца.

**Талачын.** Ва ўсіх шасці праверaных спецыялістамі дзяржкантролю калгасах раёна фермы аказаліся непадрыхтаванымі да зімоўкі жывёлы, паўсюдна былі антысанітарыя і бруд.

**Віцебск.** Масавае незадавальненне гараджан выклікала закрыццё стратнай аўтастанцыі на перасячэнні вуліц Церашковай і Маскоўскага праспекта, яе страты былі 100 млн. штогод.

**Орша.** Фірменныя магазіны мясцовага ільнокамбіната па даручэнні кіраўніцтва вобласці павінны адкрыцца ва ўсіх райцэнтрах Віцебшчыны, а потым у буйных гарадах Беларусі.

**Глыбокае.** У параўнанні з мінулым годам, пасевы азімых культур у раёне павялічыліся на 4 тысячы гектараў, вясной калгасам загадалі з вобласці павялічыць пасевы яшчэ на 10 %.

**Віцебск.** Другі год запар супрацоўнікі Кастрычніцкага РАУС правялі ў заапарку дабрачынную акцыю "Запалі ўсмешку ў сэрцах дзяцей" для выхаванцаў дзэтдома.

**Бешанковічы.** Міліцыя затрымала траіх жыхароў Віцебска па падазрэнні ў крадзяжы з Астровенскага лясніцтва 17 куб. драўніны на суму амаль 2 млн. рублёў.

**Гарадок.** У цяжкім стане з моцнымі апёкамі трапіла ў бальніцу пенсіянерка з райцэнтра, якая дапусціла ўцечку газу з пліты, ён ўзарваўся і выклікаў пажар у доме.

**Талачын.** Са смуткам жыхары вёскі Звенячы даведаліся аб смерці на 89-м годзе жыцця свайго славутага земляка, народнага мастака СССР, Героя Беларусі Міхаіла Савіцкага.

**Шаркаўшчына.** З-за курэння ў нецвярозым стане спаліў уласны дом і загінуў у агні жывёлавод з СВК "Васюкі", у гэты дзень такім чынам загінулі яшчэ трое ў вобласці.

**Ушачы.** Да свайго 40-годдзя ў зале мастацтваў мясцовага музея народнай славы адкрылі пастаянна дзеючую выставу-продаж вырабаў майстроў народнай творчасці Ушаччыны.

**Полацк.** Супраць жыхара горада міліцыя завяла крымінальную справу за заведама лжывы данос, мужчына згубіў свой пашпарт, але схлусіў, што нібыта дакументы ў яго ўкралі.

**Віцебск.** Адну з новых вуліц гарадскія ўлады вырашылі назваць у памяць акцёраў, бацькі і сына Яроменкаў, і ўстанавіць помнік свайму земляку, кампазітару Марку Фрадкіну.

**Орша.** Мясцовая велагоншчыца, майстар спорту міжнароднага класа Таццяна Шаракова заняла 2-е месца на прайшоўшым чэмпіянаце Еўропы па трэку ў Польшчы.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

## Лічба нумара

**60%** - такім вызначаны ў праекце Праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі на 2011-2015 гады ўзровень замяшчэння затрат насельніцтва на паслугі ЖКГ. Пры гэтым у дакуменце прадугледжаны рост айчыннай эканомікі да еўрапейскага ўзроўню. Але, як паказвае практыка, дасягнуць такіх вынікаў зусім не проста, бо ў будучай піцігодцы чамусьці не ўтрымліваецца паказчыкаў па заработнай плаце.

Нам паабяцалі дасягнуць заробкаў, эквівалентных сярэднияму ўзроўню ў суседніх краінах. Якую выбралі для параўнання краіну, не ўдакладнілі, можа таму, што суседзі-палякі цяпер у месяц зарабляюць 1490 $ , а ў Расіі атрымліваюць ужо 650 $. Беларусы хоць і сталі жыць багацей,чым у 2005 годзе, але ж наша зарплата ніжэйшая, усяго 390 $ у месяц. На гэтым фоне становіцца відавочна, чыя мадэль развіцця больш эфектыўная. Між тым, і папярэднюю піцігадовую праграму мы ў многім не выканалі, паколькі яна была такой жа дэкларатыўнай, без дакладных паказчыкаў, па стылі і тэксту нагадвала праграмы савецкага часу "далейшага руху да камунізму".

Праўда, у адпаведнасці з мінулай такой праграмай да канца 2010 года неабходна было давесці паказчыкі кампенсацыі жыллёва-камунальных паслуг да 75-80 %. Але пакрываем квартплату крыху больш за 30 % яе рэальнага кошту, цяпер гэты паказчык павялічылі да 60 %. Для народа гэта ўжо зараз адчувальна, бо колькі злосных неплацельшчыкаў за паслугі ЖКГ па краіне! Не ўдалося ў поўным аб'ёме выканаць і планку забеспячэння жыллём у 2010 годзе ( па мінулай праграме– 25,5-26 кв. метраў на чалавека).

З новай праграмы даведваемся, што зараз маем 24,1 кв. м , а ў канцы 2015 года будзе 27-28 кв. м. Таксама Беларусь не збіраецца ў бліжэйшы час уступаць у Сусветную гандлёвую арганізацыю, а мець найбольш цесныя сувязі з РФ і Казахстанам у рамках Мытнага саюза і набліжаць свае нарматыўныя дакументы да патрабаванняў СГА. Вось толькі што будзе, калі наш асноўны гандлёвы партнёр Расія стане членам СГА, магчыма, ужо ў 2011 годзе.

Цяпер беларуская мадэль развіцця эканомікі нават з расійскай разыходзіцца ў многім. Адзінае суцяшае, што за правал піцігадовых планаў у Беларусі ніхто ў адстаўку, акрамя шэраговых міністраў, добраахвотна не выходзіў і ад удзелу ў выбарах не адмаўляўся. Няма сумнення, што чарговы Усебеларускі народны сход зацвердзіць гэту праграму. На гэтым форуме, падобным на ранейшыя партз'езды, яго дэлегаты дакумент прымуць пад апладысменты і падтрымаюць выбраны курс асаблівай мадэлі сацыяльна арыентаванай рыначнай эканомікі. Эксперты нават не выключаюць, што адзін са сваіх перадвыбарных лозунгаў аб 1000-доларавай зарплаце для беларусаў да 2015 года можа агучыць на Усебеларускім сходзе дзеючы кіраўнік краіны.

Цікава, што ў праекце праграмы будучай піцігодкі з'явіўся нават апазіцыйны тэзіс аб мільёне рабочых месцаў. Першым яго агучыў эканаміст Яраслаў Раманчук, а потым ягоную эканамічную праграму ў інтэрв'ю польскім СМІ назваў беларускі лідар "смешнай", але заўважыў, што паважае шчырасць памкненняў свайго апанента на выбарах. У цэлым ніякіх істотных змяненняў, як прыкмецілі палітолагі, новая піцігодка не прадугледжвае. Нават ранейшы тэзіс аб тым, што Беларусь – дзяржава для народа, зараз не ўзгадваецца.

Новы лозунг гучыць так: "Патэнцыял чалавека – гэта патэнцыял дзяржавы, чым багацейшы чалавек, тым багацейшая краіна". Аднак канцэпцыя моцнай дзяржавы ва ўсім (чытай: адной моцнай рукі як напраўляючай і кіруючай) адкрыта дэкларуецца. Таму пры заяўленым курсе на лібералізацыю эканомікі куды мы дзенемся ад прагнозных заданняў, планаў і валавых аб'ёмаў, бо інакш гэта пагражае страце кіруемасці па-беларуску.

Па-сутнасці, трэба сказаць шчыра, беларусам пакуль не наканавана адчуць сябе еўрапейцамі. Быццам наша краіна ні з кім не вае цяпер і таму пакрыху развіваецца, але ж усе новыя грандыёзныя планы ніяк не стасуюцца з тым, што так імкліва скарачаецца ў нас колькасць насельніцтва. Цяпер стаіць задача хоць бы захаваць колькасць жыхароў Беларусі на ўзроўні 9,4 млн. чалавек і давесці працягласць жыцця з 71 да 72-73 гадоў. Мэты такія высакародныя, але без многіх сістэмных пераўтварэнняў дасягнуць гэтага, як і іншых паказчыкаў развіцця Беларусі, будзе вельмі няпроста, калі ўвогуле – магчыма.

■ Уладзімір Скрабатун

# хутар Скрабатуны


Возера Супонец.

Скажу праўду, што пра хутар Скрабатуны я б не стаў пісаць ніколі толькі з-за таго, што яго назоў супадае з маім прозвішчам. Няяк не сціпла! Ёсць жа Мацясы і прозвішча Мацяс, Пратасы і прозвішча Протас… Дзіўнага нічога няма – што на Глыбоччыне, што на Пастаўшчыне, што ні прозвішча – то назоў вёскі. Ды й наогул, нічога мяне не звязвае з гэтым паселішчам, бо бацька мой паходзіць з-пад вёскі Бабынічы, што ля Ветрына.

Аднак была мара прыехаць сюды і сфатаграфавацца на фоне дарожнай шыльды з назовам "Скрабатуны". Так, як экскурсанты фатаграфуюцца на фоне шыльды з назовам пастаўскай вёскі "Парыж".

Прыехалі… А шыльды такой не аказалася! Няма! А хутар такі ёсць! Бачныя хаты і гаспадарчыя пабудовы, коні наўкола пасвяцца. Пачаў лічыць: адзін, пяць, дзевяць… Далей на пагорку – яшчэ некалькі. Шмат! На палетках ляжыць ці не сотня "шпулек" сена. Спачатку падумалася – калгаснае. Аж – не! Хутарскае.

Прыбег вялікі чорны сабака і пачаў гаўкаць на нас. Праўда, паводзіў ён сябе не надта агрэсіўна. Кастусь Бахір даў яму цукерку. Дзіва, але сабака з'еў цукерку з асалодай, перастаў гаўкаць і па яго міміцы было бачна, што хоча дабаўкі. А тут яшчэ й коні – аматары слодычаў! Не даюць праходу, ідуць следам…

Нарэшце мы сустрэлі тубыльца.

– Вось прыехаў паглядзець на вёску, якую клічуць так, як ёсць маё прозвішча,– кажа аўтар гэтых радкоў.

– "Вольнае Глыбокае"?

– Вольнае!

– Дык гэта ж мой сын Якаў выпісвае! Зараз паклічу!

Ужо нас – шасцёра разам. Пазнаёміліся. Старэйшы тут – Аляксей Аляксандравіч Серафімовіч, колішні жыхар Мінска. Маладзейшы – яго 37-гадовы сын Якаў Аляксеевіч Серафімовіч. Яшчэ маладзейшыя – двое сыноў Якава.

**У.С.:** Скрабатуны – другі населены пункт Глыбоччыны, які адрадзілі мінчане. Першы – Бабруйшчына. Там дастаткова шмат асела мінчанаў. Нехта нават стары млын перабудаваў пад "замак".

**Аляксей:** Не! Без залішняй сціпласці, скажу, што ўсё ж мы сталіся першымі, якія пакінулі Мінск і пераехалі на сталае жыхарства на Глыбоччыну! Было гэта ў 1989 годзе! Потым пераехаў і мой сын. І, дарэчы, атрымалі гэтую зямлю з парушэннем закона. Пры Шушкевічу сказалі: «Трэба прапісацца! Інакш не атрымаеце зямлю!» Прапісаліся. Жыве тут яшчэ адзін мінчанін, але сезонна – Барыс Паўлавіч Уласаў. Ён яшчэ працуе ў Мінску.

## На конях у край блакітных азёраў

**У.С.:** Усё ж цікава: людзі з вёсак імкнуцца ў вялікія гарады, пакідаюць сядзібы сваіх дзядоў і бацькоў назаўсёды. Беларуская вёска вымірае! А Вы з бацькам, з усёй сям'ёй, кінулі Мінск. Сталіцу! І прыехалі сюды, "на край свету", дзе акрамя цудоўнай прыроды – ніякіх прывабнасцяў!

**Якаў:** Я, у прынцыпе, аматар коняў. У Ратамцы пад Мінскам займаўся. Аднак не сышоўся ў поглядах з тымі метадамі і прынцыпамі, якія там бытуюць ва ўзаемаадносінах – чалавек і конь. Там спорт – на першым месцы, усё так жорстка. Мне гэта не падабалася. Я са сваёй званіцы ўсё бачыў інакш. Таму я тут! Прапісаўся ў 1992 годзе. У мяне 14 коней разам з жарабятамі.

У нас шмат конных маршрутаў. Напрыклад, па Ушаччыне: у Бычкі, на радзіму Васіля Быкава, за Бычкамі – Горнае, вельмі прыгожае месца, а таксама ў Чарапоўшчыну, дзе захавалася ўнікальная панская сядзіба, будынак якой падобны на замак. Калі мы першы раз наведалі Чарапоўшчыну, дык не вылазілі адтуль гадзіны паўтары. Так цікава! Бачна, што будынак спрабавалі нават рэстаўраваць.

Ездзім у Бабруйшчыну. Натуральна, па дарозе на Бабруйшчыну наведваем колішні партызанскі аэрадром у Галубіцкай пушчы, Курган Славы. Ёсць конны маршрут па азёрах: Івесь, Белае, едзем на Доўгае праз Галубоў Сад, і Шо. Уласна кажучы, гэта хутчэй не маршруты, а – радыяльныя выезды.

Група вершнікаў звычайна складаецца з пяці чалавек. На большае пакуль не хапае рыштунку. Ну й я – за экскурсавода. Па дарозе распавядаю пра тое, што бачым. Мясціны тут вельмі цікавыя! На нашым возеры (Супонец) гняздуюцца бакланы, а вось на балота, якое адсюль за сотню крокаў, штовосень прылятае белая чапля. Звычайная белая чапля. Не альбінос! Ногі ў яе чорныя. Жураўлі наведваюцца. А баброў развялося!!! Не хацелася б з імі ваяваць, але штосьці трэба рабіць! Усё наўкола падтапліваюць… Там, дзе раней брусніцы збіралі – ужо вада.

**У.С.:** Зразумела. Вы займаецеся агратурызмам. Наколькі часта да Вас прыязджаюць аматары конных вандровак?

**Якаў:** Амаль увесь год, наколькі дазваляе надвор'е. Вось сёння – 13 лістапада. Апошняя група з Мінска была пару дзён таму.

## Немцы спалілі тут усё дарэшты

**У.С.:** Да вайны Скрабатуны былі досыць населеная вёскай! На польскай карце за 1930-ыя гг адзначаны 21 двор. Улічваючы тое, што тады сем'і былі вялікія: пяць, а то й сем-восем чалавек, то жыла тут ці не сотня жыхароў. А цяпер – не вёска, а – хутар!

**Аляксей:** Першымі пачалі знішчаць вёску Скрабатуны немцы. Тут, перад вайной, здаецца, было ўжо 24 двары. Немцы вёску спалілі, бо яна апынулася ў партызанскай зоне. Спалілі ўсё да рэшты, пад корань! Потым знішчэнне вёскі працягвалі саветы. Забаранілі пасля вайны тут сяліцца, а яе жыхарам адбудоўваць спаленыя хаты. Прымушалі ісці ў калгасы і сяліцца ў Івесі і іншых вёсках. У вёсцы прынцыпова заставаліся два чалавекі: Янэк, альбо Іван Мікалаевіч Скрабатун, і Уладзімір Скрабатун. Янэк сцяміў і пайшоў лесніком працаваць, выпісаў лесу і пабудаваўся. Яго дом і цяпер стаіць ніжэй на схіле пагорка. Уладзімір пасяліўся вышэй, на пагорку. Вось яны і адрадзілі пасля вайны гэ-


**Вы думаеце: чаму так коні палюбілі Кастуся Бахіра? Проста ў яго ў кішэнях было шмат цукерак. А гэтая пара – сапраўдныя аматары слодычаў!** *Фота Ул. Скрабатуна.*



**Фрагмент польскай вайсковай карты 1930-х гг.** На карце бачная польска-савецкая дзяржаўная мяжа. На беразе возера Супонец адзначаныя тры памежныя слупы: №№ 240, 241 і 242. Вёска Скрабатуны з 21 дваром – на польскім баку, побач – фальварак Зацішша. Мяжа існуе і сёння, на тым самым месцы, толькі цяпер паміж Глыбоцкім і Ушацкім раёнамі.

# хутар Скрабатуны


Якаў Серафімовіч

тую вёску. Дакладней, цяпер ужо хутар.

Ну, а Серафімовічы не далі знікнуць Скрабатунам з карты Беларусі ўжо ў 1989 годзе.

### Па старой звычцы тут партызанілі да 1950-ых гадоў!

**Аляксей:** Тут наогул першы калгас быў арганізаваны толькі ў 1951 годзе. Да таго часу тут нічога не было! Партызанілі пасля вайны па старой звычцы!

**У.С.:** Вы што, сур'ёзна?!

**Аляксей:** Ну, так! Мне Тылік* апавядаў. І пасевы знішчалі! Паехаў ён з Малатоўнікам, старшынёй калгаса, палеткі аглядаць, дык старшыня кажа: "Ты выйдзі спачатку сам з машыны, паглядзі навокал, могуць і з кустоў пальнуць! Потым выйду я".

### Шаўкоўніцы пана Кандыбы

**У.С.:** Можа ў ваколіцах, паблізу ад Вас, ёсць якія-небудзь цікавосткі? Акрамя, зразумела, возера Супонец. Курганы? Старажытныя могілкі?

**Якаў:** Вось там, унізе, працякае ручай. Ён нясе свае воды ў возера Супонец. За ручаём – вялізны дуб. Побач падмуркі захаваліся. Хто кажа, што пан Кандыба там жыў, а хто кажа – пан Руткоўскі. Дакладна не ведаю. Але ў любым выпадку – цікавы там пан жыў. Шаўкоўніцу пасадзіў. Да цяперашняга часу расце і нават пладаносіць. Ну й напэўна ж вы чулі пра тутавага шаўкапрада. А ён жыве выключна там, дзе расце шаўкоўніца. Аднак, гэта не той выпадак, каб у нас яшчэ і шаўкапрад жыў. Мы ж не ў Кітаі.

**У.С.:** Я чуў і чытаў, што шаўкоўніца вельмі карысная расліна. Нездарма яе пан Кандыба(?) пасадзіў. Дасведчаны пан быў!

### Наша даведка:

Радзіма шаўкоўніцы чорнай – Пярэдняя і Сярэдняя Азія. Медыцына мае досвед лячэння вялікай колькасцю свежых пладоў шаўкоўніцы хворых міякардыястрафіяй і парокам сэрца. Пасля курсу лячэння ў хворых слабелі болі, паляпшалася работа сэрца, памяншалася адышка, аднаўлялася працаздольнасць.

У кітайскай народнай медыцыне адвар каранёў ужываюць пры нырачнай недастатковасці і палавой імпатэнцыі.

Пры лёгкіх формах цукровага дыябету стравы перад ежай карысна пасыпаць парашком з лісця шаўкоўніцы.

У тыбецкай медыцыне лічыцца, што шаўкоўніца «чысціць кроў, адкрывае закаркаванні, дае вільгаць мозгу, лечыць печань, селязёнку, павялічвае тлушчавую капсулу нырак. Рассмоктвае пухліны ў горле, гартані, на языку і ўмацоўвае гэтыя органы, здымаючы з іх запаленне і ацёк». Пажылым людзям карысна ведаць, што недаспелыя плады шаўкоўніцы валодаюць вяжучымі ўласцівасцямі, саспелыя – выдатны мачагонны сродак; пераспелыя – слабяць і вельмі карысныя тым, каго замучылі запоры.

Знахары паспяхова лячылі анемію, выкліканую гастрытам з паніжанай кіслотнасцю, за 10-14 дзён. Яны рэкамендавалі хворым есці такую колькасць ягад, каб «вочы ўжо не маглі яе бачыць», – гэта быў паказчык акрыяння.

Пасля 45 гадоў шаўкоўніцу карысна прымаць і мужчынам, і жанчынам. Тады клімакс будзе праходзіць у мякчэйшай форме.

Чырвоная шаўкоўніца карысная для крыві, белая – для нервовай сістэмы.

Сок белай шаўкоўніцы – адно з лепшых адхарквальных сродкаў пры кашлі. І яна выдатна наладжвае патэнцыю ў мужчын.

Купляючы ці збіраючы ягаду, аддайце перавагу белай, калі ў вас у хаце ёсць мужчыны.

Белая шаўкоўніца з чарніцамі вельмі карысная дыябетыкам.

На польскай карце 1930-ых гг гэтае месца, дзе расце шаўкоўніца, падпісана як фальварак Заціша (Zacisze). Польскі бізнесовы даведнік за 1929 год называе і ўладальніка фальварка – Марыю Руткоўскую, у якой было 63 га зямлі.

А як быць з панам Кандыбам, пра якога чуў Якаў Серафімовіч? Вобраз тутэйшай міфалогіі? Не! У спісе населеных пунктаў Віленскай губерні за 1870 год адзначаны маёнтак Янапаль. Цэнтрам маёнтка была вёска Скрабатуны. Янапаль з 14 чалавекамі і належаў пану Кандыбе. Зрэшты, у напісанні назвы Янапаль можа быць і памылка ў дакуменце (але гэта яшчэ не факт, а здагадка аўтара), бо на картах адзначаны Ямпаль.

### Жыццё ў Скрабатунах за "польскім часам"

Я даўно задаваўся пытаннем: як паводле Рыжскай мірнай дамовы ад 18 сакавіка 1921 года была ўсталяваная дзяржаўная мяжа паміж Польшчай і Савецкай Расіяй? Граніцу правялі "ад ліхтара"? Сеў нехта і накрэсліў, як уздумалася?

Працуючы над гэтай тэмай, знайшоў цікавы дакумент і адказ на пытанне! Гэты дакумент – «Пагадненне паміж Польскай Рэспублікай і Саюзам Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік аб прававых адносінах на дзяржаўнай мяжы, якое падпісана ў гор. Маскве 10 красавіка 1932 года».

Аказваецца, і гэта сказана ў "Пагадненні", што мяжа паміж дзяржавамі праходзіць па колішняй мяжы паміж Віленскай і Віцебскай губернямі. У "Пагадненні" згадваюцца і вёска Скрабатуны і возера Супонец.

Тут вельмі цікавы момант! Недалёка ад возера Супонец – вёска Бычкі, радзіма вядомага беларускага пісьменніка Васіля Быкава, якая засталася на баку бальшавікоў.

"У доўгай дарозе дадому" Васіль Быкаў між іншым піша: "... *Затое пашчасціла мне разы два выдатна пабаляваць на прыродзе. Аднойчы – на беразе ляснога возера* ***Супонец,*** *якое любіла мая мама і да якога ў мае дзіцячыя гады не было доступу (мяжа!). А ў другі раз – у вясновым змярканні над азёрнай роўнядзю Вечалля, так натхнёна апетага Рыгорам Барадуліным…*"

Дурылі савецкі народ бальшавікі! "Закон, што дышла, як павярнулі, так і вышла". У "Пагадненні" выразна напісана, што "Забараняецца праводзіць рыбную лоўлю ад захаду да ўзыходу сонца". Значыць, ад узыходу да захаду сонца – можна! І Скрабатуны са Скрабатуноў лавілі рыбу на возеры Супонец. А Васілю Быкаву, у маці якога дзявочае прозвішча таксама Скрабатун (паходзіла з вёскі Завулак цяперашняга Глыбоцкага раёна) – нельга!

Натуральна, што гэтае "Пагадненне" – не толькі пра рыбалку ў памежных водах, а "аб прававых адносінах на дзяржаўнай мяжы". Вось, напрыклад, як вы думаеце, колькі метраў была адлегласць паміж польскімі і савецкімі памежнымі слупамі? Паводле "Пагаднення" – 5 метраў, а "пасярод праходзіць лінія дзяржаўнай мяжы". А што рабіць, калі рэчка, па якой праходзіць дзяржаўная мяжа, змяніла рэчышча і "сплыла" да бальшавікоў. Вы думаеце, бальшавікі павінныя былі падарыць палякам гэтую дзялянку зямлі? Не! Напісана: "Абодва Дамаўленчыя Бакі згодныя ў тым, што змена рэчышча памежных рэк і ручаёў не цягне за сабой змены лініі дзяржаўнай мяжы".

*Заканчэнне будзе.*

* Фёдар Філіпавіч Радзюш.


**На возеры Супонец жывуць і гняздуюцца бакланы.** Баклан здольны злавіць і праглынуць ладнага шчупака. Во, абжора!
*Фота з http://rybalka.tv/page/baklan-sedaet-shhuku-2-foto*


**Аляксей Аляксандравіч Серафімовіч з унукамі.** Фота Кастуся Бахіра.


**На балаціне каля возера Супонец была заўважная белая чапля.**


**Шаўкоўніца (шелковица)**


**Віця, сабака Гера, Міша.** Фота К. Бахіра.



# Віншаванкі

*Маці*

*Веру Астаф'еўну*

**Віншую з нагоды юбілею Дня народзін**

Любой юбилей – это чуточку грустно,
Ведь это из жизни уходят года,
Но если года эти прожиты честно,
Не надо об это жалеть никогда.
Желаем, чтоб спутником было здоровье,
Чтоб в дверь не стучала беда,
Желаем удачи, семейного счастья
И бодрости духа всегда.

***З павагай Таццяна Сіўко***

---

*Грыца Пятра Паўлавіча!*

**Віншуем з днём нараджэння!**

Жадаем моцнага здароўя, дабрабыту, выканання ўсіх жаданняў і надзей, аптымізму. Няхай удача і добры настрой будуць верным спадарожнікам ва ўсім. Поспехаў у дасягненні пастаўленай мэты.

С юбилеем! С Большим днём рождения!
С замечательным радостным днём!
Солнца, мира, успехов, везенья
И огромной удачи во всём!



Прыйшла высокая пара:
Гараць, як зоркі, дзве пяцёркі,
Здароўя, поспехаў, дабра,
Хай хлеб жыцця не стане горкім.

***Жонка, блізкія, родныя.***

---

*Алесю Будзіч*

**Віншуем з Днём нараджэння!**

Будь самой веселой и самой счастливой,
Хорошей, и нежной, и самой красивой,
Будь самой внимательной, самой любимой,
Простой, обаятельной, неповторимой,
И доброй, и строгой, и слабой, и сильной,
Пусть беды уходят с дороги в бессилии
Пусть сбудется все, что ты хочешь сама.
Любви тебе, веры, надежды, добра!

*Хросны тата і яго сям'я*

---

## С 75-летием! Поздравляем Дорогую Маму!

Есть замечательное слово – МАМА!

Где бы мы ни были, какие препятствия судьбы нам бы не приходилось переживать, мы с особой теплотой и благодарностью думаем о матери. В трудную минуту она даст добрый совет, окружит вниманием и заботой, в пору радости – искренне порадуется вместе с нами.

Сегодня нашей Маме, **Базаревич Мине Давыдовне,** исполнилось 75 лет. Ветеран труда – более 50 лет трудового стажа. В жизни ее было много всевозможных событий и переживаний.

По природе она человек обаятельный и скромный, умна, рассудительна и сдержанна. Эти черты характера позволяли ей во всем и со всеми находить взаимопонимание и строить добрые отношения.

Совместно с Отцом они вырастили и дали путёвку в большую жизнь нам, двум своим дочерям. Сегодня у нее трое внуков и три правнучки.

Дорогая и милая Мама,
У Вас сегодня юбилей,
И в этот день мы рядом с Вами –
Ведь так уютней и теплей.

Мы помним всё – старанья Ваши,
Сколько тревог, сколько забот,
Хотели жизнь нам сделать краше,
Сберечь от суеты, невзгод.

Благодарим тебя, родная,
Низкий поклон и наш привет,
Здоровья крепкого желаем,
Живите долго – Сотню лет!



***Дочери:*** *Джемма, Зинаида;*
***Зятья:*** *Александр, Александр;*
***Внуки:*** *Саша, Артур, Анжела;*
***Правнучки:*** *София, Дилария, Надия.*

---

ДА УВАГІ РЫБАЛОВАЎ-АМАТАРАЎ

# Новыя Правілы вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства

**З 13 лістапада 2010 года ўступілі ў дзеянне новыя Правілы вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства, у якія ўнесена шэраг змен і дадаткаў. Таму рыбаловам неабходна ўважліва вывучыць гэтыя Правілы, каб не апынуцца мімавольным парушальнікам.**

Так, унесены змены ў інтэнсіўныя спосабы лоўлі рыбы: пры лоўлі рыбы на дарожку з судоў з рухавікамі дазваляецца выкарыстанне толькі адной блешні ці воблера, ці іншай штучнай прынады на рыбалова, г.зн. выкарыстанне двух ці трох спінінгаў адначасова забаронена. Новымі Правіламі рыбалоўства дазваляецца выкарыстанне самаробных традыцыйных нацыянальных прылад лоўлі рыбы, выраблены з натуральных прыродных матэрыялаў (дубцоў вярбы, дранок, кары, лубу, лёну, пянькі і г.д.). Да нацыянальных прылад лоўлі рыбы адносіцца буч, кош, скрынка, морда, жак, мярэжа, але такімі прыладамі рыбалоўства дазваляецца лоўля рыбы толькі на арандаваных вадаёмах і ў месцах, вызначаных арандатарам, а таму рыбаловам неабходна ўважліва чытаць Правілы.

На арандаваных вадаёмах арганізуецца платнае аматарскае рыбалоўства, і рыбалоў на такім вадаёме абавязаны набыць пуцёўку, якую пасля заканчэння рыбалкі абавязаны здаць арандатару. Асобам, якія не вярнулі пуцёўкі ва ўсталяваны тэрмін без уважлівай прычыны, новыя пуцёўкі на працягу года не выдаюцца. Лоўля рыбы без пуцёўкі на вадаёме, дзе арганізавана платнае аматарскае рыбалоўства, цягне адміністрацыйную адказнасць.

Хутка будзе лёд, і гэту пару года шматлікія рыбаловы чакаюць з нецярпеннем. Можна палавіць шчупака на сцяжкі, стаўкі, але неабходна ведаць, што паводле новых Правіл вядзення рыбалоўнай гаспадаркі рыбаловам забараняецца:

- выкарыстанне жарліц, кружкоў, ставак без указання на іх прозвішча, ініцыялаў і адраса ўладальніка.
- пакінутыя без нагляду прылады рыбалоўства прызнаюцца бясхознымі (браканьерскімі) і канфіскуюцца органамі рыбалоўнага кантролю.
- лоўля рыбы ў якасці нажыўкі для лоўлі іншых відаў рыбы больш за 30 штук на аднаго рыбалова ў суткі.
- лоўля рыбы з плавальных сродкаў у цёмны час сутак.

26 лістапада 2010 года супрацоўнікамі Глыбоцкай міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету будзе арганізавана «прамая лінія» па тлумачэнні новых Правіл вядзення паляўнічай гаспадаркі і палявання, Правіл вядзенні рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства. Тэлефоны: 2-80-30 – начальнік інспекцыі; 2-86-70 – нам. начальніка інспекцыі. Мы адкажам на ўсе пытанні, якія Вас цікавяць.

■ **А.В. Протас,** *начальнік Глыбоцкай міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету.*

---

## Рэйд па праверцы супрацьпажарнага стану жыллёвага фонду

■ **А.А.Панфілка,** *інспектар ІДПН Глыбоцкага РАНС, капітан унутранай службы.*

Па стане на 20.11.2010 года ў Віцебскай вобласці адбыўся 1291 пажар, загінула 190 чалавек, што на 34 чалавекі, ці 22%, больш, чым за аналагічны перыяд мінулага года. У сувязі са складаным аператыўным становішчам, звязаным з ростам пажараў і гібеллю людзей на іх і распараджэннем Віцебскага абласнога ўпраўлення МНС Рэспублікі Беларусь, Глыбоцкім РАНС 19-21 лістапада быў праведзены рэйд па праверцы супрацьпажарнага стану жыллёвага фонду ў раёне, быў задзейнічаны ўвесь асабовы склад РАНС.

Пад час рэйду было праверана 694 жылыя дамы і 211 кватэр, з іх 24 дамы, у якіх пражываюць шматдзетныя сем'і, 22 дамы адзінокіх састарэлых грамадзян, 142 дамы грамадзян, якія жывуць адны, 82 дамы, дзе пражываюць грамадзяне, якія злоўжываюць алкаголем. Было праінструктавана 1956 чалавек. Па выніках рэйду да адміністрацыйнай адказнасці за парушэнне правіл пажарнай бяспекі прыцягнута 13 домаўладальнікаў. Было праведзена 11 сельскіх сходаў з грамадзянамі, дзе інфармавалася пра пажары ў раёне і вобласці, а таксама грамадзяне былі праінструктаваны аб правілах пажарнай бяспекі. Падчас рэйду распаўсюджваліся лістоўкі супрацьпажарнай тэматыкі.

Асаблівая ўвага пры праверцы домаўласніцтваў надавалася пячному ацяпленню і электрасеткам. Большасць домаўладальнікаў падрыхтаваліся да ацяпляльнага сезону: адрамантавалі печкі і коміны, пабялілі іх, адрамантавалі ці замянілі няспраўную электраправодку. Але ёсць і такія грамадзяне, якім супрацьпажарнае становішча сваіх хат абыякава. Па віне такіх грамадзян і адбываецца большасць пажараў.

Хацелася б, каб нашы грамадзяне з вялікім разуменнем ставіліся да супрацьпажарнага стану сваіх дамоў: своечасова праводзілі рамонт пячнога ацяплення і электраправодкі, не пакідалі без нагляду печы, якія топяцца, своечасова праводзілі чыстку комінаў ад сажы, не здымалі ўсталяваныя ў іх хатах аўтаномныя пажарныя апавяшчальнікі, своечасова рабілі замену элемента сілкавання.

---

# Пад апекай Марыі ў Мосары



■ **Таццяна Ластоўская.**

**З 7 да 16 лістапада ў капліцы Маці Божай Вастрабрамскай пры Мосарскім касцёле сэрцы вернікаў, з'яднаныя малітвай да Нябесная Маці Марыі, праслаўлялі Яе заступніцтва.**

У гэтым годзе падчас "Дзён Апекі" Маці Божай прыходзіла асабліва шмат людзей, каб падзякаваць Маці Божай за апеку, папрасіць навяртання і Божага благаслаўлення, каб заступніцтва Маці Міласэрнасці атуляла кожнага з нас мацярынскай апекай у кожную хвіліну нашага жыцця.






Вернікі, апрача ўдзелу ў Эўхарыстыі, узносілі свае малітвы праслаўлення, перапрашэння і просьбы, а асабліва малітвы падзякі перад Абразом Маці Божай Вастрабрамскай, спявалі Гадзінкі, чыталі малітвы Навэнны, Літанію і разважалі аб цнатлівым жыцці Багародзіцы Марыі, якая з'яўляецца ўзорам служэння Богу і людзям.

Маці Міласэрнасці натхняла вернікаў да ўчынкаў міласэрнасці і напярэдадні святкавання парафіяне на чале са сваім пробашчам наведалі дамы малазабяспечаных сем'яў, каб падзяліцца Міласэрнасцю з кошыка Міласэрнасці "Дар Сэрца", які падчас "Дзён Апекі" знаходзіўся пры алтары.

Кульмінацыяй святкавання і ўшанавання Маці Божай Міласэрнасці была Ўрачыстая Святая Імша ў 13 гадзін 16 лістапада пры адкрытым акне капліцы, цэлебрацыю якой узначаліў ксёндз Андрэй Драгун з Глыбокага. Узнёслую гамілію, якая захапіла і дыханне і сэрцы ўсіх прысутных прамовіў манах з ордэна кармелітаў босых айцец Сяргей-Юзаф Трысцень OCD з Мінска.

Падчас Эўхарыстыі – гэтай сапраўднай літургіі падзякі – Божая ласка зноў дакраналася сэрцаў вернікаў; з удзячнасцю ўздымаючы позірк у неба, у вышыню, кожны змог адчуць Божую прысутнасць і матчын клопат Нябеснай заступніцы Багародзіцы Марыі.

Пасля прыняцця Божага благаслаўлення ксёндз Аляксей Юркайць запрасіў, каб усе разам, узяўшыся за рукі, заспявалі гімн да Маці Божай. Святары, мосарскія парафіяне, госці з Глыбокага, Паставаў былі як адзіная Божая сям'я, сям'я Марыі. І цудоўны Божы супакой у душы няхай заўсёды пануе пад апекай Марыі, нашай нябеснай Маці!

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ "Вольнага Глыбокага"

29 лістапада – 5 снежня 2010 г.



## ПАНЯДЗЕЛАК, 29 лістапада




**06.00**, **07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 13.00, 14.00, 15.00, 16.10, 17.00, 18.00,23.15**Новости.
**06.05**, **07.10, 08.15** «Доброеутро,Беларусь!».
**06.45** Nota Bene.
**07.05**, **08.10** Зона Х.
**07.30**, **08.25, 11.50** Деловая жизнь.
**08.30** «В мире моторов».
**09.10** «В центре внимания».
**10.40 «Маруся»**
**11.25** «Государственная политика».
**12.10 «Американская дочь»** (Россия).
**14.05** Женское ток-шоу
**15.20**,**18.15** Новости региона.
**15.40** «Nota Bene».
**16.15 «Спальный район»**
**16.50 «Маруся»**
**18.25**, **01.20** «Зона Х».
**18.30** «Арена».
**18.50** «КЕНО».
**19.00** Выборы-2010.
**20.00** Ответный ход.
**21.00** Панорама.
**21.45** «Государственная политика».
**22.10 «Доктор Хаус-5»**
**23.30** Шпионский триллер **«Голубой лед»**
**01.30** День спорта.
**01.40** «Хоккей для всех».




**06.00**, **09.00**Наши новости.
**06.05** «Наше утро».
**09.05** Контуры.
**10.10** «Жить здорово!».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10 «Котовский»**.
**12.20** «Детективы».
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** «Контрольная закупка».
**13.45** «Модный приговор».
**14.50**«Понять. Простить».
**15.25** «Хочу знать»
**16.00** Наши новости.
**16.10** Новости спорта.
**16.15** «Дикий молодняк».
**16.50** «Битва титанов».
**18.00** Наши новости.
**18.15** Новости спорта.
**18.20** «Обратный отсчет». «МАЗ. Гонка на выживание».
**19.00** Жди меня.
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** Ток-шоу «Выбор».
**22.10** «Голоса».
**23.20** Наши новости.
**23.35** Новости спорта.
**23.40** «Дикие дети».
**00.45 «Виола Таракано-ва.В мире преступных страстей».**
**01.35-01.55** Ночные новости.

ТЭЛЕКАНАЛ "ЛАД"

**06.35 «Универ»**
**07.00** ЛАДное утро.
**08.00** Телебарометр.
**08.05 «Чисто английские убийства»**
**09.10 «Четвертая группа»** 2-я серия.



**10.20 «Умри, но не сейчас»**
**12.45** Пра мастацтва.
**13.10** Школа ремонта.
**14.05 «Полюби меня снова»**
**14.55** «Расшифровать дресс-код».
**15.25** Внеклассный час.
**15.40** Телебарометр.
**16.00 «Налетчики»**
**16.50 «Вышел ёжик из тумана»**. 1-я серия.
**17.50 «Чисто английские убийства»**
**19.05 «Одиноким предоставляется общежитие»**
**20.50** Калыханка.
**21.10** Телебарометр.
**21.15** Белорусское времечко.
**22.20 «Интерны»**
**22.55 «Универ»**
**23.35** Овертайм.
**00.05** Футбол. Чемпионат Англии. Премьер-лига. Обзор тура.
**01.00 «Налетчики»**




**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро. «.
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро. «.
**08.30** «Неделя».
**09.35** «Большой завтрак».
**10.05** «Пять историй».
**10.30** «24 часа».
**10.40** «Богатая и любимая». Теленовелла.
**11.40** «Званый ужин».
**12.35** «Фантастика под грифом «Секретно»: «На стыке миров. Непрошеные гости».
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Звездный ринг». Юрий Лоза против группы «Naka».
**15.00** Концерт Михаила Задорнова.
**16.00** «КультУРА!».
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Репортерские истории».
**17.10** «Наше дело».
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30 «Взрослые игры».**
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** «В тему». Актуальное интервью.
**20.30** «Кинопонедельник»: **«В ДВИЖЕНИИ»**.
**22.30** «24 часа».
**22.55** «Столичный футбол».
**23.25** «Кино»:**«КАРА НЕБЕСНАЯ»**.




**07:00** Тыдзень у «Аб'ектыве»
**07:30** Выбары-2010
**07:45** Гісторыя пад знакам Пагоні : «Род Алелькавічаў-Слуцкіх»
**07:55** Прэс-экспрэс
**08:10** ПраСвет
**08:40** Эксперт
**09:00** Рэмарка
**09:20** Моўнік
**09:30** Басанож па свеце : «Людажэры
**09:55** «Восем жыццяў «Жука» KFZ-1348» (The Beetle KFZ-1348), дак. фільм, рэж. Габрыел Маскару, Марсэлу Пэдрозу, 2008 г., Бразілія
**11:20 «Час гонару»** 5 сер
**12:05 «Беспрацоўныя панядзелкі»**
**17:00** Аб'ектыў
**17:05** Выбары-2010
**17:20 «Сонечная дзіда»**, серыял: 12 серыя
**17:45 «Час гонару»** (Czas Honoru), серыял: 5 серыя
**18:30** «Стабільнасць», дак. цыкл
**18:35** Госць «Белсату»
**18:50** «Кроў і попел Дражна»,
**19:10** Прэс-экспрэс
**19:25** Калыханка для самых маленькіх
**19:35** Еўропа сёння
**20:00** «Сэрца за кратамі», дак. фільм, рэж. Юрый Хашчавацкі, 2007 г., Беларусь
**21:00** Аб'ектыў
**21:25** Выбары-2010
**21:40** Рэмарка
**22:00 «Беспрацоўныя панядзелкі»**
**23:50** «Стабільнасць», дак. цыкл
**23:55** Аб'ектыў



ПАНЯДЗЕЛАК, 29 лістапада

Ãëûáîöê³ ðà¸í

# Íàðýøöå äà÷àêàë³ñÿ ñâÿòà

■ Чэслаў Якубовіч

**Вось ужо амаль два дзесяцігоддзі штогод у першую нядзелю верасня Беларусь адзначае свята духоўнасці нацыі – Дзень беларускага пісьменства. Даўно марылі правесці такія ўрачыстасці ў Глыбокім і перажылі шок, калі права іх правядзення ў 2006 годзе перадалі суседнім Паставам.**

І вось кіраўніцтва ўрада вырашыла, што ў 2012 годзе гэта 19-е па ліку свята ўшанавання беларускага слова і кнігі прымуць глыбачане, аб чым паведаміў днямі на спецыяльнай нарадзе ў райцэнтры кіраўнік Віцебскай вобласці А. Косінец. Глыбокае прыме яго ад Ганцавічаў, што на Брэстчыне. Глыбоцкі край да гэтага падыходзіць, бо ён–радзіма славутага дзеяча нацыянальнага адраджэння Вацлава Ластоўскага, мастака Язэпа Драздовіча і заснавальніка айчыннага тэатра Ігната Буйніцкага; з цудоўнай прыродай, мноствам помнікаў архітэктуры і шчырымі, працавітымі людзьмі. Вядома, цяпер за 2 няпоўныя гады трэба будзе шмат якія аб'екты, інфаструктуру горада і раёна абнавіць, прывесці ў парадак. Каб дастойна прыняць шматлікіх гасцей і годна правесці значнае рэспубліканскае свята, ужо вызначана, што трэба і можна зрабіць за такі тэрмін. Наперадзе вялікі аб'ём працы, але глыбачане і жыхары ніколі гэтага не баяліся і зробяць усё на выдатна, калі хопіць грошай на добраўпарадкаванне, дарогі і аб'екты культуры.

Âåðõíÿäçâ³íñê³ ðà¸í

# Ãëûá³íêà ¢òóï³êó

■ Станіслаў Раманчук.

**Сумны лёс напаткаў у нашай краіне невялікія гарадкі і пасёлкі, якія пасля вайны былі райцэнтрамі, а потым страцілі свой статус і перспектывы развіцця.**

Да ліку такіх паселішчаў адносіцца і гарпасёлак Асвея ў Верхнядзвінскім раёне, размешчаны на крайняй поўначы Беларусі. Асноўныя сродкі забірае сабе апошнім часам райцэнтр, які прыкметна папрыгажэў. Мясціны ж вакол другога па велічыні беларускага возера – Асвейскага– і адначменнага рэспубліканскага ландшафтнага заказніка , наадварот, прыходзяць у запусценне. Якая можа быць тут інфраструктура, калі закрылі мясцовы торфабрыкетны завод. Няма працы і для жанчын пасля таго, як спыніла сваю дзейнасць швейная фабрыка. Дажыліся да таго, што ў гэтым буйным населеным пункце зараз няма свайго ўчастковага. Супрацоўнік з райцэнтра не заўсёды можа аператыўна прыехаць і вырашыць канфліктную сітуацыю. У такіх умовах не бачыць перад сабой ніякіх перспектыў і любым чынам з'язджае адсюль мясцовая моладзь. Імкліва старэе і сам гарпасёлак, і мясцовы сельсавет, які складаецца з 22 выміраючых вёсак.

Ïàñòà¢ñê³ ðà¸í

# Çëîäçå³ íå ñïÿöü

■ Кастусь Александровіч.

**Напярэдадні выбараў беспрапынна гавораць аб пануючай у нас паўсюдна стабільнасці, развіцці і парадку, хоць рэдка які дзень абыходзіцца без крадзяжоў маёмасці.**

Вось і ў Пастаўскім раёне на працягу месяца зафіксавалі 27 такіх праварушэнняў. Акрамя традыцыйнага палявання на грошы, мабільныя тэлефоны і веласіпеды, цяпер сталі красці акумулятары. У вёсцы Стары Двор зламыснікі спачатку праніклі ў замкнёны гараж пенсіянера і пакінулі ягоны стары "жыгулёнак" без АКБ. Праз два тыдні без такой дарагакаштуючай батарэі застаўся мікрааўтобус мясцовага індывідуальнага прадпрымальніка. Жыхар райцэнтра сярод тыдня паехаў у вёску праведаць бацькоў і неабачліва не прыкрыў поўнасцю фортку аднаго з вокан дома. Злачынца скарыстаўся гэтым і вынес каштоўныя рэчы на суму пад 2 млн. рублёў: ад цюнера спадарожнікавай антэны да 5 пачак цыгарэт. Жыхарка гарпасёлка Варапаева таксама перажыла негатыўныя эмоцыі. Яна памыла адзенне і пакінула сушыць на вуліцы каля свайго дома. Прачнуўшыся раніцай, гаспадыня толькі і ўбачыла пустую нацягнутую вяроўку для сушкі. Злодзей забраў усё з адзення і бялізны, нават дзве пары шкарпэтак. Яшчэ адну жыхарку райцэнтра абрабавалі днём, калі яна была на рабоце, а ўваходныя дзверы былі на замку.

## Ãðàô³ê âûñòóïëåííÿ êàíäûäàòà¢ ó ïðýç³äýíòû ïà ðàäû¸ ³ ÒÂ (*ïðàöÿã*)

**1 снежня:** па радыё з 6.10 да 6.40 Алесь Міхалевіч, з 6.40 па 7.10 Віталь Рымашэўскі; па тэлебачанні з 19.00 да 19.30 Рыгор КастВусёў, з 19.30 да 20.00 Андрэй Саннікаў.

**2 снежня:** па радыё з 6.10 да 6.40 Дзмітрый Вус, з 6.40 па 7.10 Мікалай Статкевіч; па тэлебачанні з 19.00 да 19.30 Віктар Цярэшчанка, з 19.30 да 20.00 Яраслаў Раманчук.

**3 снежня:** па радыё з 6.10 да 6.40 Рыгор КастВусёў, з 6.40 па 7.10 Андрэй Саннікаў; па тэлебачанні з 19.00 да 19.30 Аляксандр Лукашэнка, з 19.30 да 20.00 Уладзімір Някляеў. Апрача таго, кандыдаты ў прэзідэнты змогуць удзельнічаць у дэбатах, якія пройдуць: па тэлебачанні 4 снежня з 17 да 18 гадзін; па радыё 5 снежня ў такі ж час. Дэбаты будуць весціся ў прамым эфіры. Кандыдаты ўдзельнічаюць у іх па жаданні. Агітацыйная кампанія пачалася адразу пасля рэгістрацыі кандыдатаў у прэзідэнты 18 лістапада і будзе доўжыцца да 18 снежня ўключна. Выбары Прэзідэнта БеларВусі прызначаны на 19 снежня.

# Æûõàð Â³öåáñêà çðàá³¢ ñà ñâàéãî ïàä'åçäà ì³í³-ìóçåé



**Такога пад'езда ў Віцебску больш няма. Зрэшты, як і такога жыхара, як Вадзім Кузьмін. Гэты чалавек можа смела даваць майстар-класы ў гарадскім конкурсе па добраўпарадкаванні. Але ён ніколі не падаваў заявак і увогуле не збіраецца ўдзельнічаць у падобных спаборніцтвах, хоць мае ўсе шанцы перамагчы.**

■ Яна Ільіна

Звычайна людзі за прыгажосць вакол сябе - у пад'ездзе, у двары - рупяцца супольнасцю. г.зн. цэлым пад'ездам ці дваром. А Вадзім Мікалаевіч не проста паставіў у сваім пад'ездзе пакаёвыя кветкі. Ён уладкаваў тут... мастацкую галерэю, аранжарэю, бібліятэку і нават "пакой псіхалагічнай разгрузкі". У адзіночку. І даглядае за ўсёй гэтай клапотнай гаспадаркай на дзевяці паверхах таксама адзін. А ў адказ пад'ездны добраўпарадкавальнік атрымлівае пляўкі ў павешаныя ім люстэркі, абразлівыя надпісы ў свой адрас на сценах, крадзяжы прадметаў пад'езднага "інтэр'еру" і "расправу" са сваімі карцінамі і кветкамі.

Узорна-паказальны пад'езд знаходзіцца ў стандартнай новабудоўлі па вуліцы Караткевіча ў Білева, у якую жыхары засяліліся два гады назад. Зладзіўшы ўваходзіны, гарачы калекцыянер, падпалкоўнік запасу Вадзім Кузьмін вырашыў упрыгожыць свой пад'езд. Потым захапіўся... Сёння сюды можна вадзіць экскурсіі, таму што пад'езд ператвараецца ў штосьці накшталт філіяла "кватэры" ці мінімузея.

Злева ад ліфта на першым паверсе Кузьмін павесіў люстэрка, а справа - рэпрадукцыю "Дзяцей, якія бягуць ад навальніцы". На сцяне, над паштовымі скрынямі - гадзіннік і карціны. Прычым шматлікія працы - аўтарскія. Вадзім Мікалаевіч робіць пано з марскіх ракавінак, пабітых шклянак і іншых, здавалася б, абсалютна не прыдатных для творчасці прадметаў.

А на 9-м паверсе, дзе жыве сам "дызайнер", прыгожае люстэрка ў драўлянай раме, якому прыкладна паўстагоддзя. На стале вісяць рогі паўночнага аленя, газавая лямпа, а па цэнтры, нібы люстра, - на коле ад калаўрота – гліняныя чыгуны. Ёсць на гэтай пляцоўцы і невялікая бібліятэчка. А на так званым "тэхнічным паверсе" - "пакой псіхалагічнай разгрузкі". Тут стаіць два акварыумы, столік і крэслы. Можна пасядзець, палюбавацца рыбкамі. Праўда, з інтэр'еру некалькі выбіваецца гіпсавы барэльеф Леніна над акварыумамі. Але на густ і колер, як кажуць, таварышаў няма...

А яшчэ ў гэтым пад'ездзе каля 150 гаршкоў з кветкамі - гэта амаль аранжарэя! Прычым тут растуць не толькі непераборлівыя традэсканцыі, ёсць і даволі капрызныя расліны. Карціны і люстэркі, кветкі і шторы, якія Кузьмін купляе на рынках, у камісіёнках і па аб'явах, ёсць на ўсіх паверхах, акрамя другога і трэцяга. Тут, як кажа наш суразмоўца, жывуць самыя заўзятыя супернікі яго ўпрыгожванняў.

У пад'ездзе, па словах Кузьміна, жывуць галоўным чынам маладыя людзі. Сярод іх ёсць настаўнікі, выхавальнікі і нават суддзя. Большасць жыхароў рэагуе на яго старанні спакойна. Але вось з трыма жанчынамі адносіны чамусьці не заладзіліся з самага пачатку. Здавалася б, каму, як не жанчынам, любіць парадак, але...

"Сёй-той, і я ведаю, хто, увесь час піша на сценах у мой адрас абразы. А наогул шкодзяць што ні крок. Прапальваюць запальніцамі дзіркі ў завесах. Плююць у люстэрка ў ліфце - і ніхто не вытрэ, так і будуць ездзіць. У гадзінніках сядзе батарэйка, ніхто не здагадаецца памяняць. Рыбкам у акварыум льюць кефір - і яны гінуць. У пад'ездзе раней жыў у клетцы папугай. Але потым я пабаяўся, што яму звернуць галаву, і прыбраў яго. Выкралі шашкі і шахматы са століка. А аднойчы знялі карціны, паламалі і кінулі на дыванок ля маёй кватэры. Прычым гэта былі не рэпрадукцыі, а карціны, напісаныя мастакамі, у прыгожых рамках. Быў выпадак, калі на маім парозе адна жанчына задушыла нагамі кветкі ў чыгунах... Устаўлялі мне і іголкі ў замок. І робяць гэта не падлеткі, а сталыя людзі. Такое ўражанне, што я павінен заплаціць ім сто даляраў, каб яны дазволілі мне ўпрыгожваць пад'езд..." - распавядае Кузьмін.

Але вось пад'ездных курцоў афіцэр усё ж перамог. Зараз тут сапраўды НЕ смаляць. А яшчэ да Новага года Кузьмін жадае пацешыць і папесціць пад'ездных дзетак - правесці конкурс дзіцячай творчасці. З салодкімі прызамі. А сваіх суседзяў Вадзім Мікалаевіч просіць толькі аб адным: "Я ні ў кога не прашу ні капейкі. Я жадаю толькі, каб мне дапамагалі парадамі. Калі ў мяне няма густу, то хай хтосьці падкажа, як лепш".

Кузьмін - калекцыянер з дзяцінства.. Ён збірае шмат што: манеты, значкі, узнагароды, самавары, статуэткі, гадзіннікі, фотаапараты... Калі калекцыі ўжо вельмі разрастаюцца, Вадзім Мікалаевіч аддае штосьці музеям. Напрыклад, нядаўна ён падарыў Віцебскаму абласному краязнаўчаму музею калекцыю фотаапаратаў. Супрацоўнікі музея везлі яе на двух мікрааўтобусах. А за гэтыя фотаапараты калегі па захапленні прапанавалі Кузьміну немалыя грошы. Прадметы з яго калекцый ёсць і ў іншых музеях. Так, музею ў Маскве ён падарыў мангольскія статуэткі, у Хойніках - ваенную амуніцыю, у мястэчку Заронава - некаторыя дакументы сваёй сям'і.

Дарэчы, пад'ездны добраўпарадкавальнік якога шматлікія жыхары лічаць дзіваком, чалавек даволі вядомы. Імя падпалкоўніка запасу В.Н.Кузьміна занесена ў частку "Абаронцы роднай краіны" кнігі "Хто ёсць хто ў Рэспубліцы Беларусь". Ён узнагароджаны пяццю медалямі і ордэнам "За службу Радзіме ва Ўзброеных Сілах СССР" трэцяй ступені.

## ІМЯНІНЫ

**25 лістапада**
**Пр.:** Аляксандра, Барыса, Івана, Канстанціна, Уладзіміра.
**К.:**Кацярыны, Марыі, Клеменса, Яўхіма.

**26 лістапада**
**Пр.:** Германа, Івана, Нікіфара.
**К.:** Катарыны, Кандрата, Леанарда, Лявона.

**27 лістапада**
**Пр.:** Ганны, Аляксандра, Аляксея, Рыгора, Сяргея, Пятра, Віктара.
**К.:**Валерыі, Ксеніі, Максіма, Яраслава.

**28 лістапада**
**Пр.:** Дзмітрыя, Мікалая, Мікіты, Пятра, Рыгора.
**К.**:ПЕРШЫ ТЫДЗЕНЬ АДВЭНТУ, Здзіслава, Рыгора, Сцяпана.

**29 лістапада**
**Пр.:**Дзмітрыя, Рыгора, Пятра, Мікіты, Мікалая.
**К.:** Дар'і, Маргарыты, Сцяпана.

**30 лістапада**
**Пр.**:Міхаіла, Сяргея, Рыгора.
**К.:**Юстыны, Андрэя, Канстанціна, Людаслава.

**1 снежня**
**Пр.** Мікалая, Платона, Рамана.
**К.:**Наталлі, Эдмунда, Элігіума.

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Обратиться в ... | Смягчитель ударов | Мясное блюдо | Покрывало для лошади | | | | | | |
| | | | | | Бездна в горах | | Минерал группы гранатов | | Страус |
| | Птичий ... | | Стража, караул | | | | | | |
| | | | | | Финно-угорское племя | | Настольная игра | | Шумерский бог грома, бури |
| | Порт на Черном море | | Тип ролей | | | | | | |
| | | | | | | Сорт яблони | | Бренное ... | |
| | Несчастье | | Вид векселя | | | | | | |
| | | | | | | | | | |
| Хищная птица | | Гадюка | | Духовный сан | Река в Азии, "отец рек" | | Сумчатое животное | | Чрезмерные налоги |
| Отец | | Аукцион | | | | | | | |
| | | | | Американский карьерист | | Минеральная краска | | Птица с хохолком | |
| | Шумный переполох | | Ящерица | | | | | | |
| | | | | | Зло | | | | |
| | Скелет головы | | Сказочный обед | | | | Шум, крик, гам | | |
| Жилище индейцев | | | | | Горная система в Южной Америке | | | | |

**Адказы на сканворд № 46**
**По горизонтали:** Архар. Осот. Осло. Монблан. Хлыщ. Кобра. Икар. Барк. Итог. Сено. Спич. Пикап. Пике. Чума. Внук. Сура. Углекоп. Гран. Икона. Ералаш. **По вертикали:** "Русалка". Атомщик. Столб. Тайна. Банка. Борис. Арион. Риск. Тени. Горе. Кипу. Пачкун. Пасека. Корона. Вега. Укол. Апаш. Лир. Ас.

# ГАРАСКОП
## на новы тыдзень

**АВЕН.** Першая палова тыдня можа парушыць некаторыя планы Авенаў. Месяц Скарпіёна напрыканцы здольны балюча укалоць, ды так, што прыйдзецца яшчэ доўга загойваць раны. Па гэтай прычыне не варта загадзя ісці на канфлікты, лепшая тактыка - перачакаць, калі бура супакоіцца. У другой палове тыдня адбудуцца змены: як у сітуацыі, так і ў настроі. Захочацца будаваць планы, марыць, зазіраць у будучыню. Любоўныя адносіны таксама будуць схільныя да ўплыву зорак, і калі на пачатку тыдня паміж закаханымі існаваў будзе назіраца халадок, то ўжо да выхадных запал накаліцца з новай сілай

**ЦЯЛЕЦ.** На гэтым тыдні вы будзеце на рэдкасць сацыяльна актыўнай і выявіце ўсю магчымую прадпрымальнасць. Толькі не ладзьце ніякіх авантур. Не бярыце ў аснову дасягненне мэты любымі сродкамі. Вам неабходна будзе падумаць пра гармонію мужчынскага і жаночага пачатку, а ў прыватнасці - пра дамінаванне другога ў сваёй асобе. Не забывайце, вы ўсё-ткі жанчына! Праца, кар'ера, поспех, вядома, важныя, але дзеля гэтага не варта ахвяраваць асабістым жыццём.

**БЛІЗНЯТЫ.** Тыдзень запатрабуе ад вас праявы такіх якасцяў, як свабодалюбства і незалежнасць. Толькі так вы зможаце абараніць уласныя прафесійныя якасці і прагнуць кар'ерны рост. Тым часам любая праява незалежнасці здольна выклікаць прыступ раздражнення ў каханага чалавека. Не дэманструйце так відавочна, што вы вольны чалавек. Не забывайце здымаць маску бізнес-ледзі, адыходзячы з працы дадому.

**РАК.** На новым тыдні ваш унутраны стан спрыяе таму, што выбраннік будзе вамі зачараваны. Цяпер ваша пачуццёвасць выдатна спалучаецца з уражлівасцю і тонкасцю душы, і ўсё гэта стварае такі чароўны флёр, што яму немагчыма супрацьстаяць. Застаецца толькі параіць вам дадаць да гэтага зачаравання трохі рашучасці, каб ваша жыццё стала пасля багацейшым на разнастайныя падзеі.

**ЛЕЎ.** Тыдзень - спрыяльны час для кар'еры і ўмацавання матэрыяльнай базы. У гэты перыяд могуць з'явіцца шанцы, якімі прадстаўнікі знака змогуць удала скарыстацца, а таксама рэалізаваць мінулыя прапановы ў адпаведнасці са сваімі новымі запатрабаваннямі. Гэтыя ж старыя і мінулыя, якія здаваліся ім непатрэбнымі, кантакты тым часам могуць даць штуршок для сур'ёзных змен у лёсе, якія пачнуцца ў другой палове тыдня. Бліжэй да канца тыдня пажадана не грузіцца чужымі праблемамі, а выкарыстоўваць спрыяльныя шанцы і рухацца наперад.

**ПАННА.** Тыдзень прынясе дастатковы аб"ём працы, праблемы таксама не абыйдуць бокам. Таму не трэба забываць пра фізічнае і псіхічнае здароўе. Будзьце асцярожныя і не працуйце на знос. Сітуацыя складзецца так, што вам прыйдзецца задумацца пра мацярынства. Але не варта турбавацца па гэтай нагодзе: вы так арганізаваны, валодаеце такой колькасцю энергіі, што ў вас усё атрымаецца. Вы зусім спакойна зможаце сумяшчаць мацярынства і бізнес.

**ШАЛІ.** Тыдзень будзе шматспадзеўны. На працы вас уключаць у калектыўныя мерапрыемствы, у выніку вы заслужыце ўсеагульную павагу. Наогул на новым тыдні вас будуць прыцягваць масоўкі. Канферэнцыі, зборы, з'езды па прафесійных пытаннях - гэта ваша стыхія. Вы шмат у чым будзеце мець поспех. У грашовых пытаннях вам таксама не будзе роўных. Вы зможаце зарабіць, падпрацаваць, прадаць з найвялікшай выгадай для сябе.

**СКАРПІЁН.** Фінансавае становішча Скарпіёнаў на новым тыдні вельмі ўражвае. Грошай цалкам досыць для вольнага планавання бюджэту. Аднак калі падвернецца падзаробак, ад яго адмаўляцца не варта, бо грошай ніколі шмат не бывае. Рабіце першыя ўклады ў новыя бізнес-праекты. З'явіцца магчымасць пераадолець даўняе супрацьстаянне з партнёрамі, і гэта падзея стане гарантам міру і згоды. Праблемныя пытанні нарэшце вырашацца на вашу карысць.

**СТРАЛЕЦ.** Тыдзень пачнецца з канфлікту: канкурэнты выведуць вас з сябе - вымусяць быць агрэсіўным і бязлітасным. Пры ўсёй сваёй прыязнасці і аптымістычнасці, вы зможаце настаяць на сваім і атрымаць жаданае. Сярэдзіна тыдня падорыць перадышку, можна ўздыхнуць вольна і адправіцца з каханым чалавекам на вечарынку. Усе праблемы вырашацца да канца тыдня. У выхадныя не адмоўце сабе ў задавальненні пабыць трохі ў кампаніі сціплай, сарамлівай дзяўчыны.

**КАЗЯРОГ.** На гэтым тыдні не бойцеся ў зносінах з калегамі мужчынскага полу ўспомніць пра тое, што вы жанчына. Будзьце не толькі ветлай, надзейнай, стрыманай - дазвольце сабе пакапрызнічаць. Нягледзячы на аб'ём працы і вялікую колькасць дзелавых сустрэч, паспрабуйце не забываць пра сямейныя каштоўнасці. Сям'я, дзеці, хата - гэта ваш тыл, усё тое, да чаго можна і трэба вярнуцца ў крытычнай сітуацыі. І вам пашанцавала - тыл вельмі надзейны.

**ВАДАЛЕЙ.** Тыдзень высвятлення адносін з начальствам, лепш праявіць больш гнуткасці. Не дайце павышанай эмацыйнасці ўзяць верх над розумам. Пачатак тыдня запатрабуе праявы такіх якасцяў, як інтуіцыя, мяккасць, пластычнасць. І не толькі ў вядзенні перамоў з партнёрамі і ў адносінах з калегамі. У выхадныя канфлікт з каханым можа адбыцца літаральна на пустым месцы, так што будзьце спакойныя і міралюбныя, каб не правакаваць сварак.

**РЫБЫ.** На гэтым тыдні вы адчуеце сапраўдны гонар за ўласныя дасягненні на працы. Выдаткі, якія былі ўкладзены ў ідэю, паступова вяртаюцца да вас. Будуць і кампліменты, і павага калегаў, і грашовыя заахвочванні. Вы справядліва заслужылі гэтыя бонусы і маеце патрэбу ў невялікім адпачынку. Выхадныя правядзіце актыўна, сярод блізкіх і сяброў.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі № 1210, выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь 8 лютага 2010 г.

"Вольнае Глыбокае"
Заснавальнік: Прыватнае інфармацыйна-рэкламнае ўнітарнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс»

Газета выходзіць адзін раз на тыдзень. Аб`ём – 4 друкаваныя аркушы. Падпісана ў друк 23. 11. 2010 года ў 21.05

«Вольнае Глыбокае» надрукавана на газетнай паперы РВУП **«Завод газетнай паперы» (г. Шклоў).**

Наклад 2100 паасобнікаў

**Рэдактар :**
**Уладзімір Іванавіч Скрабатун.**
**тэлефон / факс**: (02156) 2 46 14;
**E-mail**: vglybokaye@tut.by
Адрас для допісаў:
**211800 г. Глыбокае п/с 3**

Замова № 3354

Меркаванні выдаўца і аўтараў могуць не супадаць. Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць і падбор матэрыялаў. Спасылкі на "Вольнае Глыбокае" абавязковыя.

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты «Вольнае Глыбокае». Надрукавана ў РУП «Перамога», Міністэрства інфармацыі РБ, 222310, г. Маладзечна, вул. Таўлая, 11. Афсетны друк.

Юрыдычны адрас: вул. Шпітальная, 44, ком.1, г. Глыбокае.

ISSN 2077-8023